Выбары ў Палату прадстаўнікоў
Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь
V склікання

# НАРОДНАЯ ПРАГРАМА

www.prahrama.by



# Дапаможнік для кандыдатаў

Мінск 2012

# Змест


Зварот .................................................. 3

Парламент сёння і заўтра ......................... 6

Народная эканоміка ................................ 9

Стварэнне новых працоўных месцаў ........... 11

Вяртанне даверу да беларускага рубля ........ 14

Прыватызацыя і мадэрнізацыя .................... 16

Народная сацыяльная палітыка ............... 22

Пенсійная рэформа ........................................ 22

Дэмаграфічная палітыка ................................ 24

Жыллёвая палітыка ........................................ 26

Сельская мясцовасць ...................................... 27

Адукацыя ......................................................... 28

Ахова здароўя ................................................ 30

Свабода слова. Свабода інфармацыі ...... 33

Геапалітыка .......................................... 36

# Паважаныя суайчыннікі!

У Беларусі 23 верасня 2012 г. адбудуцца выбары ў Палату прадстаўнікоў. Перад тым, як браць у іх удзел, калі ласка, задумайцеся, што прапануецца ў абмен на Ваш голас.

Некаторыя кандыдаты будуць казаць Вам, у якой паспяховай краіне мы жывем. Пра тое, якія ў нас дагледжаныя палі, эфектыўная медыцына і даступнае жыллё. Будуць казаць пра «унікальнасць» беларускай эканамічнай мадэлі і абяцаць Вам заробкі ў пяцьсот, семсот ці нават у тысячу долараў. Зададзім сабе пытанне – ці магчыма выканаць такія абяцанні?

Мінулы год яскрава паказаў, што «беларускі эканамічны цуд» цалкам разбурыўся. Беларускі рубель абваліўся амаль у тры разы. Краіна залезла ў такія пазыкі, якіх у яе не было ніколі. За апошніх пяць год знешні доўг вырас ў 21 раз. На 1 ліпеня ён склаў 12,1 мільярды долараў. Гэта значыць, што сёння на кожнага беларуса прыходзіцца больш за 1,2 тысячы долараў запазычанасці. Сацыяльныя гарантыі не спрацоўваюць, нягледзячы на ўсе абяцанні і прагнозы ўладаў.

Непрадуманыя крокі кіраўніцтва краіны паставілі дзяржаву ў вельмі складанае становішча. Мы гэта бачым і разумеем. Улады не дэманструюць наяўнасці адэкватнай стратэгіі па паляпшэнні сітуацыі і па структурных зменах. Замест гэтага яны працягваюць карміць нас казкамі аб дабрабыце.

Сёлетняя парламенцкая кампанія з’яўляецца вельмі важнай для кожнага з нас. Мы маем унікальны шанец правесці паспяховыя рынкавыя рэформы, мадэрнізаваць эканоміку і грамадства. У адваротным выпадку мы назаўсёды трапім у пастку беднасці, знешняй запазычанасці і прымусім сваіх дзяцей разлічвацца за няправільны выбар. Выбар трэба рабіць сёння, бо ўжо праз тры гады – падчас наступных прэзідэнцкіх выбараў – будзе вельмі позна!

Узаемадзеянне чалавека і дзяржавы мусіць грунтавацца на падмурку праўды, сумлення, выканання сваіх абяцанняў абодвума бакамі. Таму мы выступаем за сумленную палітыку, накіраваную на карысць беларускага народа, за роўную канкурэнцыю ідэяў і прапановаў.

Мы выдатна разумеем, што ўдзел у выбарах з’яўляецца адзіным

легальным сродкам прэтэндаваць на ўладу. Замест папулізму непрафесіяналаў, замест пустых лозунгаў і абяцанняў, мы прапануем платформу рэальных дзеянняў – Народную праграму.

Яна стваралася адказнымі грамадзянамі Беларусі. Тымі грамадзянамі, якім не ўсё роўна, што будзе з краінай заўтра. Народная праграма ўвабрала ў сябе тэмы, якія найбольш цікавяць грамадства ў цяперашні момант.

*Каардынатар «Народнай праграмы»,*
*намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.*



# І. Парламент сёння і заўтра

Цяперашні парламент не выконвае сваёй асноўнай палітычнай функцыі: практычна не ініцыюе і не распрацоўвае законапраектаў, не кантралюе дзейнасць выканаўчай улады. Законапраекты распрацоўваюцца ў Адміністрацыі прэзідэнта, а пасля перадаюцца ў Палату прадстаўнікоў. Прэзідэнт і ўрад робяць выключна фармальныя справаздачы перад Нацыянальным сходам, пры гэтым дэпутаты імкнуцца дэманстраваць сваю лаяльнасць кіраўніку дзяржавы і не патрабуюць ад яго адказнасці за сітуацыю ў краіне.

Палата прадстаўнікоў не з'яўляецца стартавай пляцоўкай для палітычнай кар'еры. Сёння ў парламенце вельмі мала маладых, амбітных і энергічных палітыкаў. Сярэдні ўзрост сённяшняга дэпутата – 55,4 гады.

У Палаце прадстаўнікоў IV склікання няма ніводнай дэпутацкай групы або фракцыі, няма ні апазіцыі, няма і большасці. Усе дэпутаты быццам бы роўныя. Але гэта тармозіць групавую працу, аналіз законапраектаў. Замест дыскусіі наконт заканадаўчых прынцыпаў, якія б найлепей падышлі да беларускіх умоваў, галоўным аргументам на карысць ухвалы дакументу выступае характарыстыка: "Праект унесены прэзідэнтам".

> **Цяперашні парламент не выконвае сваёй асноўнай палітычнай функцыі: практычна не ініцыюе і не распрацоўвае законапраектаў, не кантралюе дзейнасць выканаўчай улады.**

Узгадайце, калі Вы апошні раз бачылі трансляцыю парламенцкіх дэбатаў? Вы можаце сказаць, хто з'яўляецца спікерам Палаты прадстаўнікоў? Альбо назваць прозвішчы прынамсі трох дэпутатаў?

У выбаршчыкаў няма ўяўлення, чым мае займацца дэпутат. Прыняцце законаў -- адзін з галоўных абавязкаў дэпутата. А ці можаце Вы спраўдзіць, як галасаваў ваш дэпутат за пенсійную рэформу, за бюджэт на 2012 год, за змены ў заканадаўстве па прыватызацыі

дзяржаўнай маёмасці, за блок сацыяльных законапраектаў, у пытаннях адмены ільготаў?

Парламенты бадай усіх развітых краінаў прапануюць у вольным доступе (як у Інтэрнэце, так і па запыце) архіў галасаванняў па законапраектах. І кожны выбаршчык можа на свае вочы бачыць, ці датрымліваецца ягоны абраннік сваіх абяцанняў, сваёй перадвыбарчай праграмы.

***Нацыянальны сход абсалютна невядомы грамадзянам Беларусі і па гэтай прычыне яму не давяраюць. Склалася парадаксальная сітуацыя, калі па абарону сваіх правоў грамадзяне звяртаюцца вельмі часта не да дэпутатаў, а ў Адміністрацыю прэзідэнта.***

Чаму мы ўдзельнічаем у парламенцкіх выбарах, калі Палата прадстаўнікоў нічога не вырашае? Таму, што мы хочам змяніць сітуацыю. Мы выступаем за моцны, адкрыты і прафесійны Парламент.

**У якасці першачарговых мер палітычнай рэформы мы выступаем за:**

1. Вяртанне парламенту яго сапраўднай палітычнай ролі, якая замацавана Канстытуцыяй: права і абавязку ініцыяваць, распрацоўваць і прымаць законапраекты, кантраляваць дзейнасць выканаўчай улады;
2. Пераход падначаленага Адміністрацыі прэзідэнта Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў пад кантроль Нацыянальнага сходу;
3. Увядзенне прамых выбараў кіраўнікоў мясцовых органаў улады. Першыя такія выбары могуць быць праведзеныя падчас выбараў у мясцовыя Саветы ў 2014 г.
4. Рэфармаванне выбарчай сістэмы ў адпаведнасці са стандартамі і рэкамендацыямі АБСЕ.



Каб вярнуць у сферу публічнай палітыкі Палату прадстаўнікоў, **мы прымем Канцэпцыю "Адкрытага Парламента"**, якая будзе грунтавацца на наступных пунктах:

1. Арганізацыя на сайце парламента сталых анлайн-трансляцый з залі пасяджэнняў; стварэнне даступнага архіву відэатрансляцый;
2. Стварэнне па ўзоры парламентаў суседніх краінаў інтэрнэт-архіву вынікаў галасаванняў – каб кожны выбаршчык меў магчымасць пракантраляваць, як ягоны дэпутат галасаваў за той ці іншы законапраект, і ці наогул прысутнічаў на сваім месцы.
3. Увядзенне на тэлеканале "Беларусь 1" штотыднёвай праграмы "Парламенцкая гадзіна"; аднаўленне практыкі прамых тэле- і радыётрансляцый найбольш важных парламенцкіх сесій (пры зацвярджэнні дзяржаўнага бюджэту; ратыфікацыі міжнародных дамоваў; галасаванні па законапраектах у сферы эканамічнай і сацыяльнай палітыкі);
4. Заканадаўчае забеспячэнне прынцыпу народнага кантролю за дэпутацкай дзейнасцю: размяшчэнне на сайце парламенту дэкларацый аб прыбытках і маёмасці дэпутата і членаў яго сям'і;
5. Найхутчэйшую рэалізацыю ужо існуючай праграмы "Электроннага ураду".

**“Калі б цяперашні склад Палаты прадстаўнікоў быў сапраўды пад народным кантролем, то яшчэ ў 2010 г. дэпутаты папярэдзілі ўрад і прэзідэнта аб няправільнасці абранага эканамічнага курса.”**

**Мы ўпэўненыя: калі б цяперашні склад Палаты прадстаўнікоў быў сапраўды пад народным кантролем, то яшчэ ў 2010 г. дэпутаты папярэдзілі ўрад і прэзідэнта аб няправільнасці абранага эканамічнага курса.**



# II. Народная эканоміка

Цяперашняя сітуацыя ў краіне з'яўляецца вельмі складанай, у пэўным сэнсе ледзь не найбольш складанай за ўвесь перыяд незалежнасці. Падарваны давер да нацыянальнай валюты. За тры апошнія гады беларускі рубель патаннеў на амаль у тры разы. Валавы знешні доўг, які ўключае ў сабе і дзяржаўную, і недзяржаўную запазычанасць на 1 студзеня 2012 года, складае 34 мільярды долараў альбо ***62,3% от ВУП***. Гэтыя грошы неабходна будзе вяртаць. Мы ўсе сталі закладнікамі валюнтарысцкіх падыходаў у эканоміцы і будзем вымушаны разлічвацца за памылкі ўладаў з уласнай кішэні.

> **“За тры апошнія гады беларускі рубель патаннеў амаль у тры разы.”**

Рост заробкаў не паспявае за ростам коштаў. Працаўнікі бюджэтнага сектару знаходзяцца на мяжы беднасці, а асобныя катэгорыі насельніцтва — нават за гэтай рысай. Такую сітуацыю мы лічым абсалютна непрымальнай і несправядлівай! Калі працуеш сумленна, не мусіш быць бедным.

Прычыны, на наш погляд, банальныя. У 90-я гады Беларусь пачала пераход да рынкавай эканомікі. Аднак апошнія 20 год ідзе не столькі рэформа, колькі размовы пра тое, колькі элементаў сацыялізму, камунізму, лібералізму дапускаць. Ёсць шмат прамоваў пра ...-ізмы і мала справы. Беларусь, як была краінай з пераходнай эканомікай, так і засталася. Вынік – адсутнасць сродкаў на сацыяльныя праграмы падтрымкі насельніцтва.

Парадокс, але у краіне з "сацыяльнай рынкавай эканомікай" самыя меншыя сацыяльныя ільготы ва ўсім рэгіёне. У Расіі правялі манетызацыю ільготаў, у нас жа іх проста адмянілі. Ва Украіне пенсіянеры ездзяць бясплатна нават на маршрутках, у Беларусі – няма грошай, каб кампенсаваць перавозчыкам выдаткі на ільготны праезд. Ва ўсіх суседніх дзяржавах сумарная дапамога па нараджэнні дзіцяці вымяраецца дзесяткамі тысяч долараў,

у Беларусі – сотнямі. І падобныя прыклады можна працягваць. У самай "сацыяльна арыентаванай дзяржаве" найменшыя сацыяльныя ільготы.

Так, у Беларусі ёсць цэлы шэраг прадпрыемстваў, якія працуюць эфектыўна, паспяхова. І могуць быць прыкладам, рухавіком эканомікі. Аднак трагізм сітуацыі ў тым, што тыя прадпрыемствы, якія маюць прыбытак, не могуць пусціць грошы на развіццё вытворчасці ці заробкі сваім рабочым. Кожнае паспяховае прадпрыемства "цягне на сабе" абавязак фінансавання стратных структур і мусіць аплачваць вынікі памылковых рашэнняў ці проста бяздзеяння ўраду.

На жаль, Беларусь згубіла марна 20 год. У 1993-1995 гг. стартавыя магчымасці нашай дзяржавы ацэньваліся значна вышэй за перспектывы Польшчы, Латвіі, Літвы, Славаччыны. Не кажучы ўжо пра Украіну і Расію.

Аднак, у адрозненні ад стану рэчаў пачатку дзевяностых, зараз няма бяспройгрышных варыянтаў, пры якіх ніхто б не пацярпеў. Выхад з крызісу – справа балючая.

Мы прапануем такую мадэль рэфармавання эканомікі, калі будуць выконвацца паслядоўныя і поўныя дзеянні без усялякай імітацыі і дэмагогіі. Улады не маюць права маніць людзям, прынамсі, казаць пра "сацыяльныя гарантыі", калі забіраюць ільготы. Скажы "цяпер цяжка", але назаві дату, калі будзе палёгка. І зрабі гэта.

Зараз перад намі стаіць задача, калі неабходна прайсці складаны этап рэфармавання. Мы не робім прыгожых абяцанняў. Наша платформа арыентавана на эканамічна актыўных грамадзян, якія жадаюць сумленна працаваць і атрымліваць годны заробак. Гэтыя людзі, прадпрыемствы сваёй працай ствараюць дабрабыт дзяржавы. А функцыі ўлады ствараць умовы для спакойнай працы законамі, іх выкананнем, адсутнасцю карупцыі і бюракратыі.

І тады, па прыкладзе суседніх дзяржаваў, у нас будуць сродкі і на сацыяльныя ільготы, і на маштабныя будаўнічыя праекты, і на міжнародныя святы, ды і проста на годнае жыццё кожнага беларуса.

## Стварэнне новых працоўных месцаў

Любыя рэформы эканомікі цягнуць за сабою змены на рынку працы. Нас часта пужаюць магчымым беспрацоўем. Але малы заробак, кантракт на 1 год і ёсць спосабам прыхаваць рэальныя праблемы з занятасцю насельніцтва.

> **Даць магчымасць працаваць усім ахвочым і даць магчымасць зарабляць годныя грошы за сваю працу.**

Беларусь сапраўды можа ганарыцца сваімі людзьмі. Наша дзяржава мае сапраўдны скарб – высокі ўзровень адукацыі насельніцтва і кваліфікаваную працоўную сілу. Аднак, патрабаванне "працуй на сабе і таго дзядзьку" не ствараюць умоваў для самарэалізацыі. Тыя, хто хоча і можа сваёй працай зарабляць сапраўды шмат, вымушаны шукаць долі за межамі краіны. Гэта інжынеры, праграмісты, лекары, эканамісты. Штогод тысячы такіх людзей абагачаюць чужыя дзяржавы. І падаткі з іх заробкаў ідуць на пенсіі і сацыяльныя гарантыі жыхарам Расіі, Украіны, Польшчы, Вялікабрытаніі, Літвы ды іншых краін. Беларускі ўрад, калі захацеў забраць болей ад заробку такіх спецыялістаў, страчвае ўсё. Гэта – сотні мільёнаў долараў штогод.

Выйсце адно – найхутчэйшыя рэформы з улікам інтарэсаў людзей. Што гэта азначае? Проста: даць магчымасць працаваць усім ахвочым і даць магчымасць зарабляць годныя грошы за сваю працу.

Як такога дасягнуць? Трэба прыняць законы, што спрыяюць эфектыўнай працы эканомікі. Неабходна, каб на справе, а не на паперы існавалі аднолькавыя ўмовы для ўсіх формаў уласнасці. Трэба адмяніць ганебную сістэму кароткатэрміновых кантрактаў, вярнуць абарону правоў працоўных, даць рэальную магчымасць прафсаюзам адстойваць інтарэсы наёмных работнікаў перад наймальнікамі.

Адкрытасць улады і празрыстыя ўмовы для вядзення бізнесу ствараюць умовы для заснавання ў Беларусі новых прадпрыемстваў, да прыходу ў прамысловасць, сельскую гаспадарку, сферу абслугоўвання сапраўдных гаспадароў.

Прыцягненне інвестыцый створыць працоўныя месцы. І функцыя ўраду на гэтым этапе – даць магчымасць кожнаму годна зарабляць, не пакідаючы краіну. У якасці першачарговых мусяць быць выкананы наступныя меры:

1. Стварэнне новых працоўных месцаў у рэальным сектары эканомікі будзе аб'яўлена прыярытэтным накірун-кам;
2. Распрацаваны і прыняты новы Працоўны кодэкс, у якім мусіць быць:
   - цалкам адменена прымусовая сістэма кароткатэрміновых кантрактаў;
   - рэальна гарантаваныя правы на адпачынак, на мінімальныя нормы аплаты гадзіны працы, на абарону працоўнымі сваіх правоў даступнымі метадамі, уключна з свабодай аб'яднання ў прафсаюзы і правам на страйк;
   - пашырана адказнасць працадаўцы за парушэнні правоў наёмных работнікаў;
3. Даць роўныя магчымасці і гарантыі для знешніх і ўнутраных інвестараў пры стварэнні працоўных месцаў;

4. Палепшаны ўмовы для вядзення бізнесу са зніжэннем адміністратыўнага ціску, аптымізацыяй падатковай палітыкі і спрашчэннем бухгалтарскага ўліку;

5. Адменены Указ № 285 ад 18 чэрвеня 2005 году "Аб некаторых мерах па рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці". Індывідуальным прадпрымальнікам будзе вернутая права найму людзей, якія не з'яўляюцца блізкімі сваякамі. Таксама будзе скасавана прадугледжанае гэтым указам абмежаванне на колькасць людзей, якія прымаюцца на працу індывідуальнымі прадпрымальнікамі;

6. Педагогам і медыкам будуць падвышаны заробкі да сярэдніх паказчыкаў па эканоміцы за кошт аплаты навучальным установам сапраўдных коштаў навучання паводле колькасці школьнікаў/студэнтаў, медычным установам – за кошт дзяржаўнай сістэмы медычнага страхавання (раскрываецца ніжэй, у раздзеле прыватызацыя)

7. Гарантаваная дзяржаўная падтрымка ўсім ахвотным адкрыць уласны бізнес: пашырана сетка бізнес-інкубатараў, старт-апаў; арганізаваныя бясплатныя юрыдычныя кансультацыі і эканамічныя экспертызы;

8. Уведзены даступныя праграмы па перакваліфікацыі для тых грамадзян, якія страцілі працоўныя месцы.

Разам з арганізацыяй новых працоўных месцаў мы створым новы імідж Беларусі. Напрыклад, ужо сёння мы можам зрабіць IT-сферу нацыянальным гонарам. Айчынныя спецыялісты паспяхова зарэкамендавалі сябе за мяжой, таму мы можам развіваць гэты накірунак мадэрнізацыі эканомікі як адзін з самых прыярытэтных.

# Вяртанне даверу да беларускага рубля

Пра эканамічную моц дзяржавы сведчыць перш-наперш устойлівасць яе валюты і давер да нацыянальнага плацежнага сродку.

> **Мінулы год падарваў давер як да нацыянальнай валюты, так і да нацыянальнай эканомікі ўвогуле.**

На жаль, ні тое, ні другое Беларусь не можа занесці сабе ў актыў. Можна як заўгодна доўга казаць пра "беларускі эканамічны цуд", але пакуль курс устанаўліваецца загадам, пакуль насельніцтва трымае ашчаджанні ў замежных валютах, такі цуд застаецца толькі лозунгам.

У чым жа прычына? Іх на самой справе дзве. Першая – адмоўнае сальда знешнеэканамічнай дзейнасці па выніках 2011 году. Гэта азначае, што Беларусь купляе больш, чым прадае.

Пагадзіцеся, любая сям'я не здолее існаваць, калі яна траціць больш, чым зарабляе. Тое самае і з дзяржавай. Толькі ў дачыненні да валюты мы маем яшчэ адзін аспект: замест эканоміі наш урад захапляецца друкаваннем грошай. Лёгка сказаць "будзе заробак у 500 долараў". Лёгка і надрукаваць беларускія рублі. Але што атрымліваецца, калі такіх рублёў робіцца вельмі шмат, мы бачылі у 1998-2000 гг. Апошні прыклад 2011 год.

Мінулы год падарваў давер як да нацыянальнай валюты, так і да нацыянальнай эканомікі ўвогуле.

Давер да рубля ў адзін момант не вернеш. Вяртанне даверу – гэта пытанне як мінімум некалькіх гадоў. Для гэтага неабходная паслядоўная праца ўсіх дзяржаўных органаў, якія адказваюць за эканамічную палітыку.

Гісторыя апошніх год паказала, што фіксацыя курсу – гэта неэфектыўны механізм. У такім разе паглыбяцца праблемы ў

знешнім гандлі, зменшацца унутраныя інвестыцыі, не будзе расці давер да рубля.

Таму, дзеля аздараўлення эканомікі і, як вынік росту даходаў жыхароў Беларусі, мы пры прыходзе да ўлады у першую чаргу зоймемся:

1. Стабілізацыяй нацыянальнай валюты праз:

- пераўтварэнне Нацыянальнага банку Беларусі у **сапраўды самастойны** эмісійны цэнтр з адпаведнымі паўнамоцтвамі і адказнасцю за прынятыя рашэнні;
- перадачу Нацыянальнаму банку, як адзінаму цэнтру, усіх паўнамоцтваў і механізмаў уплыву для кантролю за інфляцыяй;
- правядзенне жорсткай грашовай палітыкі, абмежаванне грашовай эмісіі, аптымізацыя выдаткаў з дзяржаўнага бюджэту;

2. Стымуляванне росту экспартнага патэнцыялу нашай эканомікі праз

- прыватызацыю і рэструктурызацыю прадпрыемстваў, якія сёння датуюцца з бюджэту;
- увядзенне падатковых і крэдытных ільготаў для прадпрыемстваў – экспарцёраў;
- дзяржаўную падтрымку прадпрыемствам пры выхадзе на "новыя" замежныя рынкі;
- стымуляванне пераводу ў Беларусь вытворчых магчымасцяў транснацыянальных карпарацый.



# Прыватызацыя і мадэрнізацыя

Людзі старэйшага веку памятаюць лозунгі "Зямля – сялянам, фабрыкі – рабочым". На самой справе гэты лозунг быў рэалізаваны не ў СССР, дзе уласнасць належала народу на паперы, а ў "краінах капіталізму", дзе звычайны чалавек мог стаць акцыянерам бадай любога прадпрыемства.

Пасля атрымання Беларуссю незалежнасці дзяржава зрабіла вялікую падмену паняццяў. З савецкай "народнай" уласнасць стала "дзяржаўнай". Прыклад – зямля. У часы калектывізацыі людзі аддавалі сваю зямлю, сваю уласнасць у калгас для вядзення сумеснай гаспадаркі. І заставаліся пайшчыкамі калгасу.

> **"Пасля атрымання Беларуссю незалежнасці дзяржава зрабіла вялікую падмену паняццяў. З савецкай «народнай» уласнасць стала «дзяржаўнай»."**

Аднак пасля шэрагу дзяржаўных рашэнняў атрымалася дзіўная рэч: той самы калгаснік, які мае акт на зямлю, выдадзены яшчэ ягонаму дзеду, працуе на гэтай зямлі, але ужо не як уласнік, а як наёмны работнік, і зямля ужо не ягоная, а дзяржаўная. Пасля замены паняцця "народная" на "дзяржаўная" людзі пераўтварыліся з саўладальнікаў на наймітаў. Ім не належыць ужо нічога.

Мы за пераадоленне гэтай найвялікшай несправядлівасці. Уласнасць павінна належыць народу, а не дзяржаве!

Апошнімі гадамі мы шмат чуем пра праграму прыватызацыі. Пры гэтым кіраўніцтва краіны нас запэўнівае ў тым, што нічога за капейкі распрадаваць не будзе. Але што мы бачым на самой справе?

У выніку шэрагу памылак у эканоміцы Беларусь апынулася ў цяжкім стане. Прыватызацыя праводзіцца часцяком "шэрымі схемамі", без конкурсаў. Назва такіх дзеянняў ужо даўно вядомая – "прыхватызацыя".

Падобнае мы ўжо назіралі ў дзевяностыя гады ў суседняй Расіі – гэткім чынам там з'явіліся алігархі. У Беларусі ж цяпер дзяржаўная



маёмасць перацякае ў рукі тых самых расійскіх алігархаў. Былі даўгі за газ – прадалі сваю газатранспартную сістэму "Белтрансгаз" расійскаму "Газпраму", пры чым пра конкурс, аўкцыён і гаворкі не было.

Выраслі даўгі ў 2011 годзе. Цяпер ідзе гаворка пра зліццё ў адзін холдынг МАЗа і КАМАЗа. Прычым МАЗ, які цягам апошніх 3-х год паспяхова выцясняе КАМАЗ з рынкаў, які мае ўласныя рухавікі ЕЎРА-4, які, у рэшце рэшт, ёсць прыбытковым, далучаюць да Камскага холдынгу, што мае страты ўжо сёмы год запар. МАЗ далучаюць да холдынгу, які не мае сваіх распрацовак па рухавіках і адпаведна не можа экспартаваць сваю прадукцыю далей за Афрыку, адсталыя краіны Азіі і дзяржавы былога СССР.

Як і ў выпадку з "Белтрансгазам", гэта таксама адбываецца без конкурсу, і таксама за даўгі. Прычым КАМАЗ нават грошай не плоціць: ён набывае МАЗ у абмен на частку сваіх акцый. Загадзя вядома, што расійскі бок будзе мець у сумесным холдынгу кантрольны пакет акцый і таму будзе здольны праводзіць любое рашэнне.

Ратуючыся ад бяздарных памылак мінулых гадоў, якія прывялі да абвалу эканомікі, вялікія і дробныя чыноўнікі распрадаюць зараз народную ўласнасць. Мэта такой дзейнасці – не выратаваць краіну ад беднасці, а часткова расплаціцца з даўгамі і, магчыма, заадно абагаціцца за наш кошт. Бо вядома, што пры гэткіх "шэрых схемах" вельмі часта чыноўнікі атрымліваюць персанальную "падзяку".

На чарзе у такім лісце "здзелак па сяброўству" стаіць БелАЗ, нафтаперапрацоўчая сістэма, "Беларуськалій", чыгунка, хімічная галіна, энергетыка.

## Прыватызацыя, на наш погляд, мусіць праходзіць паводле іншых прынцыпаў.

*Першы* – рэальны кошт. Гэта азначае, што кожны аб'ект, які выстаўляецца на продаж, мае быць ацэнены не меней

чым трыма незалежнымі ацэншчыкамі для справядлівай прапановы.

*Другі* – адкрытасць і конкурсны падыход. Гэта азначае, што прыватызацыя мусіць праводзіцца выключна праз аўкцыёны, дзе пачатковы кошт атрыманы з вынікаў незалежнай ацэнкі, а не з галавы чыноўніка, і дзе ёсць канкурэнцыя сярод пакупнікоў. Важна, каб кожны грамадзянін меў магчымасць быць сведкам продажу і/ці атрымаць усю інфармацыю па дэталях здзелкі.

**“Выручаныя ад прыватызацыі сродкі мусяць скіроўвацца выключна на інвеставанне ў нацыянальную эканоміку і, пэўная доля, у адмыслова створаны Фонд будучых пакаленняў.”**

*Трэці* – гарантыі для народа. Гэта азначае, што пры набыцці, напрыклад, прадпрыемства, інвестар гарантуе захаванне ягонага профілю і працяг выпуску прадукцыі. Гэта дазволіць пазбегнуць практыкі набыцця канкурэнта, каб яго знішчыць. Выключэнні – аб'екты, якія, як было вырашана яшчэ да іх продажу, мусяць змяніць свой профіль. Але і ў такім разе інвестар мусіць надаць гарантыі працаўладкавання ці справядлівай кампенсацыі работнікам. У адваротным выпадку – здзелка анулюецца.

*Чацверты* – удзел народу ў атрыманні даходу ад продажу народнай маёмасці. Гэта азначае, што выручаныя ад прыватызацыі сродкі мусяць скіроўвацца выключна на інвеставанне ў нацыянальную эканоміку і, пэўная доля, у адмыслова створаны **Фонд будучых пакаленняў**.

З гэтага фонду мусяць фінансавацца праграмы сацыяльнай падтрымкі дзяцей і моладзі, выплаты дапамогі па нараджэнні дзяцей. Фонд будучых пакаленняў мусіць быць крокам да стварэння у Беларусі сістэмы "дзіцячага капіталу": дзяржава

на адмысловы рахунак кожнага нованароджанага кладзе суму, якая мае перавышаць, напрыклад, кошт атрымання вышэйшае адукацыі. У такім разе бацькі не будуць баяцца нараджаць дзяцей – будзе ўпэўненасць у іх будучыні.

Яшчэ адным кірункам Фонду будучых пакаленняў мусіць стаць набыццё патэнтаў і тэхналогій для ажыццяўлення якаснай мадэрнізацыі нацыянальнай эканомікі. Прыцягнутыя сродкі дазволяць без шоку і стратаў перайсці на новы тэхнічны і тэхналагічны ўзроўні.

*Зямля:* беларусы маюць права валодаць сваёй зямлёй. Мы выступаем за увядзенне сістэмы зямельных паёў, калі кожны грамадзянін дзяржавы мае пай на пэўную плошчу зямель. Гэтыя паі не пераходным этапе можна не прадаваць наўпрост. Аднак уладальнік сельскагаспадарчага прадпрыемства мусіць плаціць селяніну за тое, што атрымлівае прыбытак з яго зямлі. А у перспектыве 7-8 год гэта дазволіць без шоку, маніпуляцый і падманаў выйсці на нармальны, празрысты рынак зямельных рэсурсаў.

Такім чынам, пры ўмове нашай прысутнасці ў парламенце мы будзем уносіць законы пра:

1. Празрыстую ацэнку аб'ектаў прыватызацыі і кантроль за ўтварэннем коштаў на продаж прадпрыемстваў
2. Выключна конкурсны падыход да правядзення прыватызацыі. Гарантыі адкрытасці і даступнасці інфармацыі па здзелках
3. Працоўныя, сацыяльныя і іншыя гарантыі для працаўнікоў, насельніцтва пры правядзенні прыватызацыі
4. Мэтавае накіраванне прыватызацыйных грошаў на абнаўленне нацыянальнай эканомікі (першая частка)
5. Накіраванне часткі прыватызацыйных грошаў у Фонд

будучых пакаленняў, якія мусіць стаць крыніцай выплат бацькам пры нараджэнні дзіцяці, стварэння сістэмы "дзіцячага капіталу", а таксама набыцця патэнтаў і тэхналогій для ажыццяўлення якаснай мадэрнізацыі нацыянальнай эканомікі

6. Увядзенне сістэмы зямельных паёў нароўні з моцнымі засцерагальнымі механізмамі па абароне інтарэсаў сялян.

Правядзенне празрыстай і справядлівай прыватызацыі па рынкавых коштах, прыцягненне прамых інвестыцый дазволіць накіраваць сродкі на выкананне наступных праграм:

1. Тэхнічнае пераабсталяванне прадпрыемстваў на сучасныя тэхналогіі;
2. Ажыўленне нацыянальнай прыкладной навукі – накіраванне сродкаў на найхутчэйшае прымяненне вынаходніцтваў нашых навукоўцаў у эканоміцы;
3. Развіццё транспартнага патэнцыялу, а менавіта:

- ✔ пашырэнне інфраструктуры Міжнародных транспартных калідораў №2 і №9 (Берлін – Масква і Балтыка – Адэса). Гэта рэканструкцыя дарог у дадзеных кірунках, стварэнне лагістычнай інфраструктуры для прыёму, перанакіравання грузаў, рэканструкцыя чыгункі па восі Поўнач-Поўдзень.
- ✔ будаўніцтва хуткаснай лініі Орша-Мінск-Брэст са стандартам еўрапейскай чыгуначнай калеі, што дазволіць зняць праблему "замены колавых параў" на заходняй мяжы Беларусі.
- ✔ развіццё інфраструктуры сартыровачных станцый Беларускай чыгункі, аднаўленне вагоннага парку.

- рэканструкцыя нацыянальнага аэрапорта "Мінск" і аэрапортаў у абласных цэнтрах;
- электрыфікацыя ўчасткаў чыгункі да ўсіх абласных цэнтраў;
- будаўніцтва і рэканструкцыя аўтадарог павышанай прапускной здольнасці да ўсіх абласных цэнтраў і памежных пераходаў. Вынас транзітных транспартных аўташляхоў за межы гарадоў (будаўніцтва аб'язных ветак).
- Развіццё транспартнай інфраструктуры ў гарадскіх зонах: падтрымка і развіццё экалагічна бяспечнага транспарту;
- Будаўніцтва пасажырскай хуткаснай лініі з чыгуначных вакзалаў Мінска і Барысава да аэрапорта Мінск, у будучыні – ад вакзалаў абласных цэнтраў да абласных аэрапортаў;
- Арганізацыя даступных унутраных авіямаршрутаў паміж Мінскам і абласнымі цэнтрамі, арганізацыя міжабласных рэйсаў;
- Развіццё міжабласных хуткасных аўтамагістралей: пашырэнне дарог, арганізацыя шматузроўневых развязак; развіццё прыдарожнага сэрвісу.



# III. Народная сацыяльная палітыка

## Пенсійная рэформа

У Беларусі на сёння існуе салідарная пенсійная сістэма. Гэта азначае, што грошы на пенсіі штомесяц здымаюцца з заробкаў працоўных у якасці абавязковых узносаў на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне. Такая сістэма вельмі выгадная, калі нацыя "маладзее", калі нараджальнасць перавышае смяротнасць і колькасць працоўных расце штогод.

Перапіс 2009 году прадэманстраваў сумны факт – на 1.000 працоўных прыпадае 624 пенсіянеры. Прагнозныя паказчыкі на 2030 год – 841 пенсіянер на 1.000 чалавек працаздольнага ўзросту. Пры існуючай пенсійнай сістэме працоўным у нашай краіне будзе ўсе цяжэй утрымліваць сваіх пенсіянераў.

> **“Мы спыняем фінансаванне выдаткаў, якія не звязаны з выплатамі пенсій, са сродкаў дзяржаўнага пазабюджэтнага Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны насельніцтва.”**

Адпаведна, сённяшнія працаўнікі практычна не маюць шанцаў атрымліваць годную пенсію па дасягненню адпаведнага ўзросту.

З другога боку, пры такой колькасці пенсіянераў працаўнікі таксама не маюць шансаў атрымаць годны заробак, бо ў перспектыве значная частка ад налічаных грошай мусяць ісці на пенсію суседу.

Відавочна, што такі сцэнар патрабуе тэрміновых зменаў у пенсійнай сістэме. Дзяржава будзе вымушана рэгулярна зніжаць фактычны памер пенсій, павялічваць пенсійны ўзрост і адлічэнні на пенсіі.

**Мы выступаем за перагляд сённяшніх сацыяльных выплат**, як несправядлівых. Мы прапануем індывідуальныя прэферэнцыі: чалавек атрымлівае сродкі (ці бясплатныя для яго паслугі) адпаведна сваім патрэбам.

**Пенсійная рэформа, якую мы прапануем, будзе ўяўляць пераход да двухузроўневай сістэмы.**

*Першы узровень* пакуль што застаецца у выглядзе "салідарнай пенсійнай сістэмы" – на гэтым узроўні нічога не мяняецца.

*Другі* – пачынае дзейнічаць для працаўнікоў – кожны працоўны частку "пенсійных узносаў" скіроўвае на "уласны пенсійны рахунак". Гэтыя сродкі інвестуюцца ў эканоміку, дзяржаўныя каштоўныя паперы і г.д. І, пры выхадзе чалавека на пенсію гэтыя сродкі могуць пераўтварыцца ў істотную суму. Інвестыцыі і мінімальны даход па іх гарантаваны дзяржавай.

Акрамя таго, недзяржаўныя пенсійныя інвестыцыйныя фонды – добраахвотныя структуры, якія прымаюць сродкі і таксама інвестуюць для атрымання даходу, які пасля выплачваецца пенсіянеру. Мінімальная даходнасць (як і захаванне унёскаў) мусяць быць застрахаваныя.

На гэтым жа ўзроўні маюць быць уведзеныя механізмы "доўгатэрміновай пенсійнай страхоўкі".

А на пераходны перыяд, які зойме ад 4-х да 10 год для недапушчэння зніжэння фактычнага памеру пенсій, мы:

- спыняем фінансаванне выдаткаў, якія не звязаны з выплатамі пенсій, са сродкаў дзяржаўнага пазабюджэтнага Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны насельніцтва;

- выроўніваем з 1 студзеня 2016 г. пенсійны ўзрост для жанчын і мужчын – 60 гадоў;
- развіваем пенсійныя інвестыцыйныя фонды.
- уводзім заканадаўчае рэгуляванне сістэмы пенсійнае рэнты і пажыццёвае рэнты.

## Дэмаграфічная палітыка

Па дадзеных перапісу, колькасць жыхароў Беларусі складае 9 мільёнаў 489 тысяч чалавек. За апошнія дзесяць гадоў насельніцтва Беларусі скарацілася на 475 тыс. чалавек. Гэта параўнальна з колькасцю насельніцтва Гомеля, другог па велічыні горада краіны. Колькасць насельніцтва працягвае і надалей зніжацца. Узровень смяротнасці ў нас вышэйшы за аналагічныя паказчыкі ў Расіі, Польшчы, Літве і Латвіі.

Дэмаграфічныя перспектывы Беларусі вельмі сумныя. Суадносіны нараджальнасці і смяротнасці, разам з сур'ёзна парушанай узроставай структурай насельніцтва, сведчаць аб тым, што працэсы дэпапуляцыі не ўдасца спыніць у бліжэйшыя 20 гадоў. Працягласць жыцця сёння складае 70,4 гады (64,6 гадоў для мужчын і 76,5 гадоў для жанчын). За ўвесь час незалежнай Беларусі гэты паказчык так і не вярнуўся да узроўню 1990 году. Працягласць жыцця ў сацыяльна арыентаванай Беларусі толькі на 1-2 гады большая, чым ва Украіне і Расіі, з іх "дзікім бесчалавечным капіталізмам".

Палепшыць дэмаграфічную сітуацыю можна рынкавымі стымуламі, а не запланаванымі паказчыкамі, як гэта робіцца зараз. Тым больш, што выканаць запланаваныя паказчыкі, будзе немагчыма па двух прычынах:

1) неспрыяльныя эканамічныя ўмовы;

2) у дзетародны ўзрост зараз уступае малалікае пакаленне, якое нарадзілася ў дзевяностыя.

Зараз неабходныя такія прапановы, якія прынясуць станоўчы эфект. Для гэтага асноўнай стратэгіяй сваёй дэмаграфічнай палітыкі *мы аб'яўляем прынцып "Беларуская сям'я – мінімум двое дзяцей"*. Для яго ажыццяўлення мы мусім стымуляваць нараджальнасць (даваць сацыяльную падтрымку адразу) і стымуляваць упэўненасць бацькоў у будучыні іх дзіцяці:

## Стымуляванне нараджальнасці: імгненная дапамога

1. Стварэнне сеткі перынатальных цэнтраў (клінік, дзе клапоцяцца пра рэпрадуктыўнае здароўе жанчын і здароўе іх нованароджаных дзяцей. Будаўніцтва такіх цэнтраў мусіць адбыцца ва ўсіх вялікіх гарадах (з насельніцтвам больш за 100 тысяч). Крыніцы фінансавання – Фонд будучых пакаленняў і інвестыцыі вядомых медычных цэнтраў.

> **Мы аб'яўляем прынцып «Беларуская сям'я – мінімум двое дзяцей».**

2. Перагляд сістэмы выплат дапамогі па нараджэнні дзіцяці. Сям'я мае атрымліваць да 50% коштаў патрэбных для дзіцяці у першыя гады жыцця. Гэта азначае паступовы рост дапамогі да 500 долараў на месяц пры нараджэнні першага дзіцяці, 1.000 – другога, 1.500 – трэцяга.

3. Наданне ільготных крэдытаў на пабудову кватэры для сямей, што маюць 2-х дзяцей, і беспрацэнтныя займы для сямей, што маюць трох і болей дзяцей.

## Стымуляванне нараджальнасці: доўгатэрміновыя праграмы

1. Стварэнне Фонду будучых пакаленняў. З гэтага фонду мусяць фінансавацца праграмы сацыяльнай падтрымкі дзяцей і моладзі, выплаты маладым сем'ям, дапамогі па нараджэнні дзяцей, стварэнне у Беларусі сістэмы "дзіцячага капіталу”.

2. Пераход на сістэму фінансавання дзяржавай вышэйшай і сярэдне-спецыяльнай адукацыі сваіх грамадзян праз выплату поўнага кошту адукацыі з Фонду будучых пакаленняў.

3. Правядзенне дзяржаўнай палітыкі па адраджэнні павагі да мацярынства, выхавання дзяцей.

4. Уключэнне для шматдзетных маці пазіцыі "маці/выхавальніца дзяцей", як працоўнай спецыяльнасці, пры налічэнні пенсій. Дзяржава мусіць рабіць у такім выпадку адлічэнні у пенсійныя фонды, каб жанчына да "салідарнай" альбо базавай пенсіі атрымлівала дадатковыя выплаты. Устанавіць для шматдзетных маці памер "базавай" пенсіі у 110%-120% ад сярэдняга паказчыка па краіне.

## Жыллёвая палітыка

Несправядлівая сістэма забеспячэння жыллём, якую за апошнія гады развівала дзяржава, прывяла да павелічэння карупцыі. Падумайце, чаму супрацоўнікі МУС праз 5 - 7 гадоў службы атрымліваюць таннае жыллё, а маладыя настаўнікі – не? Больш за тое, перабор танных крэдытаў на жыллё прывёў да бюд-

**“Мы прапануем увядзенне сістэмы доўгатэрміновага сацыяльнага найму. Калі на сённяшні дзень Вашы даходы не дазваляюць Вам набыць кватэру або дом, мы даем магчымасць зняць жыллё, якое нічым не будзе саступаць жыллю ва ўласнасці, па недарагіх коштах.”**

жэтнай перагрузкі. Мы лічым, што сацыяльнага жылля ў прыватнай маёмасці быць не павінна.

Сацыяльнае жыллё мусіць быць толькі ў шматдзетных сямей. Для астатніх катэгорый насельніцтва мы прапануем увядзенне сістэмы доўгатэрміновага сацыяльнага найму.

Калі на сённяшні дзень Вашы даходы не дазваляюць Вам набыць кватэру або дом, мы даем магчымасць зняць жыллё, якое нічым не будзе саступаць жыллю ва ўласнасці, па недарагіх коштах. Так жыве Заходняя Еўропа, і гэта з'яўляецца нармальным.

## Сельская мясцовасць

Не менш праблемнай ёсць сітуацыя з жыллём у сельскай мясцовасці. Ідэя арганізацыі аграгарадкоў адразу была правальнай.

У той час, калі пустуюць столькі хат, выдаткоўваюцца шалёныя грошы на будаўніцтва дамоў, якія не адпавядаюць нармальным умовам жыцця ў вёсцы.

Дзяржава замест таго, каб ствараць умовы набыцця тэхнікі або зямлі ў арэнду на ільготных умовах, робіць стаўку на будаўніцтва таннага жылля ў вёсцы, дзе жыллё само па сабе ёсць танным. Сённяшняя бесперспектыўнасць вёсак з іх мізэрнымі заробкамі і татальнай алкагалізацыяй насельніцтва адпужвае эканамічна актыўных людзей.

Для вырашэння гэтых праблем мы прапануем ажыццяўленне наступных крокаў:

1. Спыненне неэфектыўных датацый для вёскі, пераразмеркаванне гэтых сродкаў на закупку сучаснай тэхнікі і абсталявання для сельскай гаспадаркі;
2. Увядзенне танных банкаўскіх крэдытаў для набыцця сельскагаспадарчай тэхнікі;
3. Прадстаўленне зямельных і лясных надзелаў у сельскай мясцовасці ў арэнду на ільготных умовах; вызваленне фермераў ад выплаты падаткаў у першыя 5 гадоў дзейнасці;
4. Стварэнне роўных умоваў гаспадарання для дзяржавы і прыватных уласнікаў у сельскай мясцовасці;
5. Прадстаўленне ільготных крэдытаў пры арганізацыі новых працоўных месцаў у сельскай мясцовасці;
6. Перавод закупачных коштаў сельскагаспадарчай прадукцыі на рынкавыя паказчыкі;
7. Прыцягненне ўнутраных і знешніх інвестыцый для арганізацыі ў сельскай мясцовасці малых прадпрыемстваў, дзейнасць якіх будзе садзейнічаць захаванню біялагічнай разнастайнасці.

> **“Мы прапануем пераразмеркаваць датацыі на закупку сучаснай тэхнікі і абсталявання для сельскай гаспадаркі.”**

## Адукацыя

Бясконцыя эксперыменты прывялі да таго, што адукацыя даведзена да ручкі, а прафесія настаўніка цалкам дыскрэдытаваная. Пра што можна казаць, калі сёння ў педагагічныя

універсітэты, на большасць факультэтаў, цяпер залічваюць усіх, хто падае дакументы. А заўтра гэтыя "настаўнікі" будуць вучыць нашых дзяцей.

Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у Еўропе, якая не далучылася да Балонскага працэсу – які мае мэтай стварэнне адзінай Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі. Існуе вельмі вялікая праблема з прызнаннем нашых дыпломаў па-за межамі краіны. Выпускнік беларускага універсітэта не мае тых магчымасцяў і перспектываў, якімі валодаюць студэнты ў суседніх краінах.

Кожны год павялічваецца колькасць студэнтаў, што атрымліваюць вышэйшую адукацыю на платнай аснове і па некалькі разоў за год павялічваецца памер аплаты за навучанне.

Праблема вышэйшай адукацыі палягае акрамя таго і ў бюджэтнай сферы. Адукацыйныя праграмы фінансуюцца па рэштковым прынцыпе. Адпаведна і аплата настаўнікам, выкладчыкам. Адзін з варыянтаў выхаду – платная адукацыя. Але беларускія сем'і часта не могуць сабе дазволіць вучыць дзяцей за грошы.

Аднак іншага шляху чым даць настаўніку, выкладчыку тых грошай, якія ён заслугоўвае за сваю працу, няма. Няма іншага шляху, як толькі не інвеставаць у адукацыю: адсутнасць спецыялістаў сёння – смерць дзяржавы ў бліжэйшай перспектыве.

Дзе ж выйсце? Мы, як казалася вышэй, будзем ствараць Фонд будучых пакаленняў, які будзе напаўняцца з прыватызацыйных грошай, адлічэнняў з выплат за патэнты. Гэты фонд стане асновай сістэмы "Дзіцячага капіталу".

З яе мы цягам 10-20 год зможам перайсці з аднаго боку на "платную сістэму адукацыі", калі навучальныя установу будуць атрымліваць належныя грошы за сваю працу. А бацькі ў той жа час будуць гарантавана мець сродкі на навучанне іх дзяцей ад моманту іх нараджэння.

Школа ў любой краіне мае ўлічваць нацыянальныя асаблівасці, менталітэт, светапогляд і традыцыі народа. Сістэма адукацыі мае дапамагаць маладому грамадзяніну вырасці усебакова развітай асо-

бай, якая любіць сваю дзяржаву, культуру, гісторыю. І глыбока паважае культуру, гісторыю нацыянальную годнасць іншых дзяржаў.

Мы павінны аднавіць прэстыж прафесіі педагога і зрабіць сістэму адукацыі адпаведнай патрабаванням сённяшняга дня. Для гэтага мы ажыццявім наступныя дзеянні:

1. Вяртанне лепшых дасягненняў сістэмы сярэдняй адукацыі ў Беларусі і умацаванне ды ўзбагачэнне праз увядзенне нацыянальнага падмурку, які адпавядае традыцыям, светапогляду насельніцтва Беларусі.
2. Пераход на сістэму фінансавання дзяржавай вышэйшай і сярэдне-спецыяльнай адукацыі сваіх грамадзянаў праз выплату поўнага кошту адукацыі з Фонду будучых пакаленняў.
3. Стварэнне сістэмы грантавай падтрымкі адоранай моладзі, у тым ліку для праходжання дадатковага навучання за мяжой.
4. Стварэнне сістэмы фінансавай падтрымкі таленавітых настаўнікаў і выкладчыкаў.
5. Увядзенне практыкі запрашэнне для адукацыйных курсаў найлепшых выкладчыкаў з замежных ВНУ, уключэнне Беларусі ў Балонскі працэс
6. Давядзенне узроўню аплаты настаўніка ў пачатковай і сярэдняй школе да памеру 120-130% ад сярэдняга заробку ў дадзенай мясцовасці.

## Ахова здароўя

Найважнейшымі праблемамі грамадскага здароўя ў Беларусі з'яўляюцца перавышэнне смяротнасці за нараджальнасць, высокая смяротнасць працаздольнага насельніцтва, алкагалізацыя

разам з легкадумным стаўленнем грамадзян да свайго здароўя.

Нізкія даходы, "ураўнілаўка" ў аплаце працы і туманныя перспектывы для самаразвіцця ставяць пад пагрозу далейшае ўстойлівае функцыянаванне аховы здароўя, а, значыць, і стан здароўя насельніцтва Беларусі.

Фінансаванне аховы здароўя ажыццяўляецца з дзяржаўнага бюджэту. За апошнія 5 гадоў на гэтыя мэты выдаткоўвалася каля 5% ад ВУП, што ў 3 разы менш, чым у суседняй Польшчы. Сёння ў ахове здароўя назіраецца значны кадравы дэфіцыт у сістэме першаснай дапамогі.

Дзяржава працягвае культываваць сітуацыю савецкага перыяду, калі за здароўе чалавека адказвае не ён сам, а медперсанал паліклінік і бальніц. Толькі ў Беларусі магчыма сітуацыя, калі за няяўку пацыента на дыспансерызацыю адказвае ўчастковы тэрапеўт.

> **Неабходна павелічэнне памеру фінансавання медыцыны з цяперашніх 5% ад узроўню ВУП да 10%.**

Мы лічым, што ўжо сёння наспела неабходнасць у правядзенні рэформы сістэмы аховы здароўя. Для гэтага мы выступаем за:

1. Павелічэнне памеру фінансавання медыцыны з цяперашніх 5% ад узроўню ВУП да 10%;
2. Пералічэнне заробкаў супрацоўнікам медыцынскіх устаноў да сярэдніх паказчыкаў па эканоміцы краіны;
3. Стварэнне роўных ўмоваў для дзейнасці дзяржаўных і прыватных медыцынскіх устаноў;
4. Стварэнне сістэмы прыватнай страхавой медыцыны;
5. Развіццё медыцынскага турызму;
6. Увядзенне нязменнага базавага набору бясплатнай медыцынскай дапамогі асобам да 18 год, пенсіянерам і інвалідам;
7. Увядзенне практыкі сямейных дактароў;

8. Зніжэнне бюракратычнай нагрузкі на супрацоўнікаў медыцынскіх устаноў;

9. Увядзенне ў медыцынскіх ВНУ спецыяльнасці "менеджмент сістэмы аховы здароўя".

Актуальнай сацыяльнай праблемай у Беларусі з'яўляецца спажыванне алкаголю, па ўзроўні якога краіна займае 11 месца ў свеце! У нашай краіне за год выпіваецца 14 літраў чыстага алкаголю ў пераліку на кожнага жыхара. За мінулы год продаж спіртных напояў вырас у 2 разы. Па ўзроўні распаўсюджанасці тытунякурэння Беларусь таксама займае адно з першых месцаў у Еўропе.

Надышоў час увесці рашучыя меры супраць далейшага росту ўжывання алкаголю і тытуню. Для гэтага мы прапануем на дзяржаўным узроўні неадкладна выканаць наступныя меры:

1. Значнае павелічэнне акцызаў на алкаголь і цыгарэты (напрыклад, кошт бутэлькі гарэлкі мусіць быць роўны дзённаму заробку);

2. Забарона продажу піва і моцнага алкаголю з 22:00 вечара да 10:00 раніцы;

3. Вынас продажу цыгарэт і алкаголю ў спецыялізаваныя крамы і шапікі;

4. Поўная забарона рэкламы цыгарэт, піва і моцнага алкаголю ў СМІ і на білбордах;

5. Павелічэнне ўзроставага цэнзу на забарону продажу цыгарэт, піва і моцнага алкаголю асобам да 21 года;

6. Забарона вырабу і продажу пладова-ягадных він ("чарніла") на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

# IV. Свабода слова. Свабода інфармацыі

Эканамічных, палітычных памылак, якія загналі Беларусь у эканамічную яму  і на мяжу палітычнай ізаляцыі, можна было б пазбегнуць, калі б дзейнічалі канстытуцыйныя прынцыпы свабоды слова і свабоды інфармацыі.

У 2011 годзе нават тыя, хто паводле сваёй адукацыі, працоўных абавязкаў мусіў прапаноўваць рэцэпты недапушчэння абвалу эканомікі, не здолеў зрабіць гэтага, бо грунтаваўся на няпраўдзівых (ці няпоўных) дадзеных і не мог адкрыта абмеркаваць свае прапановы у т.л. у СМІ.

Тое самае дзейнічае і ў іншых галінах: ад мясцовых праблем водаправодных трубаў і да міжнароднай палітыкі.

Сёння дзяржава адсочвае падачу інфармацыі грамадзянам, уводзіць пасады "ідэолагаў", праводзіць "дабраахвотна-прымусовую падпіску" на дзяржаўныя СМІ. Апошні "фронт ідэалагічнай барацьбы" – спробы ўвесці цэнзуру ў Інтэрнэце.

У дэмакратычных краінах роля дзяржавы не марнаваць грошы на "інфармаванне насельніцтва", а забяспечыць роўны доступ грамадзян да інфармацыі. У Беларусі неабходна стварыць умовы для канкуравання меркаванняў, пазіцый, а грошы, што выдаткоўваюцца на чынавенскі апарат па кантролі інфармацыі, варта накіраваць у сістэму аховы здароўя, адукацыю.

Наша пазіцыя: дзяржава не мае займацца неўласцівай ёй функцыяй інфармавання: грамадзяне дастаткова разумныя, каб атрымаць інфармацыю і сфармуляваць сваё стаўленне.

Адпаведна нашымі захадамі у галіне забеспячэння свабоды слова і свабоды інфармацыі ёсць:

1. Упарадкаванне формаў уласнасці на рынку СМІ. У перспектыве маюць застацца "прыватныя" (у т.л. акцыянерныя)

**“Грамадзяне дастаткова разумныя, каб атрымаць інфармацыю і сфармуляваць сваё стаўленне.”**

і грамадскія СМІ. Дзеля гэтага ўжо на першым этапе мае адбыцца:

- ✔ поўная адмена прымусовых падпісных кампаній на дзяржаўныя газеты;
- ✔ ліквідацыя сістэмы дзяржаў-ных датацый для СМІ. Увядзенне роўных умоваў гаспадарання для СМІ незалежна ад формы ўласнасці.
- ✔ заканадаўчае замацаванне прынцыпаў канкурэнцыі ў сістэме распаўсюду СМІ.
- ✔ заканадаўчае ўвядзенне формы грамадскай уласнасці СМІ – калі такія структуры існуюць за кошт добраахвотных адлічэнняў грамадзянаў і падсправаздачныя адкрытым грамадскім радам.
- ✔ бесперашкоднае прадстаўленне СМІ роўных магчымасцяў ажыццяўлення рэкламнай дзейнасці ў перыяд падпісных кампаній;

2. Стварэнне сістэмы гарантый па вольнаму доступу да інфармацыі і па свабодзе слова.

- ✔ адмена Указа №60, дзейнасць якога сур'ёзна абмяжоўвае распаўсюд інфармацыі ў Інтэрнэце. Забяспечыць умовы для самарэгуляцыі прасторы;
- ✔ прыняцце закону пра публічную інфармацыю і закону пра абарону прыватнай інфармацыі.
- ✔ прыняцце закону пра гарантаванне недатыкальнасці журналістаў пры выкананні імі сваіх працоўных абавязкаў
- ✔ прыватызацыя Беларускага Дома друку і Беларускага тэлеграфнага агенцтва;



- прыватызацыя "Белсаюздруку" і "Белпошты". Стварэнне іншых прадпрыемстваў па паштовых паслугах з прыватным капіталам.
- стварэнне на базе сённяшняга тэлеканала "Беларусь 1" грамадскага тэлебачання.



# V. Геапалітыка. Наш дом - Беларусь

Беларусь заўсёды была неад'емнай часткай Еўропы і еўрапейскай цывілізацыі. І мы, у адпаведнасці з гістарычнымі традыцыямі, з'яўляемся прыхільнікамі еўрапейскага накірунку. Мы не выступаем за ўступленне ў Еўрапейскі Саюз у хуткатэрміновай перспектыве, бо гэта не падаецца рэальным. Спачатку мы павінны вырашыць свае ўласныя праблемы. Мы выступаем за пераймання еўрапейскіх стандартаў, бо Еўропа – гэта месца магчымасцяў. Еўропа – гэта сучасныя тэхналогіі.

> **„Сёння Еўрапейскі Саюз гатовы аказаць Беларусі рэальную дапамогу – найперш, праз ініцыятыву «Усходняе партнёрства» і праграму «Дыялог па мадэрнізацыі Беларусі»"**

Сёння Еўрапейскі Саюз гатовы аказаць Беларусі рэальную дапамогу – найперш, праз ініцыятыву "Усходняе партнёрства" і праграму "Дыялог па мадэрнізацыі Беларусі". Мы зможам дамовіцца з сусветнымі фінансавымі арганізацыямі аб адтэрміноўцы выплат пазык па мінулых крэдытах.

Толькі інтэграцыя Беларусі ў Еўропу здольная забяспечыць паўнавартаснае эканамічнае развіццё. І толькі інтэграцыя ў Еўропу здольная гарантаваць бяспеку нашай краіне.

У супрацоўніцтве з Еўрапейскім Саюзам мы правядзем эфектыўнае рэфармаванне эканомікі, сацыяльнай і грамадскай сферы і пабудуем новую Беларусь.

Пры гэты мы не забываем пра нашых іншых суседзяў і партнёраў, найперш пра Расію. Адносіны з Расіяй – гэта добрасуседскія, узаемавыгадныя адносіны двух незалежных дзяржаваў. Мы жадаем пабудаваць адносіны з Расіяй на рынкавай, раўнапраўнай аснове. У нашым разуменні сяброўскія адносіны з Расіяй – гэта гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва. Расія – не наш вораг, але і не паратунак.

Літва, Латвія і Украіна наўпрост завязаныя на наш рынак. Толькі дзякуючы загрузцы беларускімі прадуктамі могуць працаваць

літоўскі і латвійскі парты. Украіна карыстаецца паслугамі нашых нафтаперапрацоўчых заводаў. Вялікае жаданне супрацоўнічаць з намі выказвае Эстонія, якая зацікаўлена ў транзіце нашых тавараў па сваёй тэрыторыі.

**“Мы, беларусы – еўрапейцы. Наша гісторыя і наша будучае – Еўропа.”**

**Мы выступаем за:**

1. Умацаванне адносін з Еўрасаюзам;
2. Набліжэнне ўсіх сфераў жыцця да еўрапейскіх стандартаў. У перспектыве – ўступленне ў Еўрапейскі Саюз;
3. Добрасуседства з Расеяй. Не саюз на словах са скандаламі і канфліктамі, а супрацоўніцтва двух незалежных дзяржаваў;
4. Супрацоўніцтва, перш за ўсе, палітычнае і гандлёва-эканамічнае з іншымі дзяржавамі.

Некаторыя палітычныя сілы любяць маніпуляваць геаграфічным палажэннем краіны, уводзячы цьмяную канцэпцыю "Беларусь – мост паміж Усходам і Захадам". Але наша геаграфічнае палажэнне якраз-такі не дазваляе лавіраваць паміж рознымі геапалітычнымі блокамі. Мы павінны зрабіць толькі адзіны выбар.

Мы, беларусы – еўрапейцы. Наша гісторыя і наша будучае – Еўропа. Наш дом - Беларусь.




**Рух “За Свабоду”** ўзнік у 2006 годзе ў часе масавых пратэстаў супраць фальсіфікацый вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. Ад моманту стварэння яго ачольвае Аляксандр Мілінкевіч, кандыдат у прэзідэнты на выбарах-2006, кандыдат фізіка-матэматычных навук, лаўрэат прэміі Еўрапарламента “За свабоду думкі” імя Сахарава.

У 2008 годзе Рух быў зарэгістраваны ў Беларусі як праваабаронча-асветніцкая грамадская арганізацыя.

**Мэты дзейнасці** – дэмакратызацыя краіны, умацаванне яе незалежнасці, развіццё грамадзянскай супольнасці і абарона правоў чалавека, набліжэнне Беларусі да Еўразвязу. Рух “За Свабоду” працуе на перамогу перадусім у галовах грамадзян.

**Кантакты:**
**Тэл.:** 8-017-2808863
**Сайты:** pyx.by, milinkevich.org, prahrama.by (кампанія “Народная праграма”)
**e-mail:** al.milinkevich@gmail.com, edu.mff@gmail.com (па культурна-адукацыйных пытаннях)
**група ў Facebook:** Рух “За Свабоду”/Movement for Freedom

НАРОДНАЯ
ПРАГРАМА
www.prahrama.by



**«Народная праграма»** - гэта ініцыятыва па выпрацоўцы новага пазітыўнага бачання будучыні Беларусі з дапамогай экспертнага і шырокага грамадскага абмеркавання надзённых пытанняў развіцця краіны.

Экспертамі “Народнай праграмы” (а гэта каля паўсотні адмыслоўцаў - практыкаў і вучоных) прапануюцца тэзы і контртэзы па праблемах у розных сферах - у эканоміцы, палітыцы, сацыяльным забеспячэнні, медыцыне, сельскай гаспадарцы і нават побыце. Узнятыя тэмы затым абмяркоўваюцца ўсімі зацікаўленымі грамадзянамі анлайн на сайце **www.prahrama.by**. Апрача гэтага, дыскусіі адбываюцца падчас круглых сталоў і грамадскіх слуханняў.
У выніку нараджаюцца сумеснае бачанне змен і канцэпцыі вырашэння праблем – своеасаблівыя “дарожныя мапы” рэформаў, патрэбныя для лепшай Беларусі.

Гэтыя тэзы будучых пераўтварэнняў даступныя для выкарыстання любым палітычным і грамадскім сілам. У часе выбарчай кампаніі, калі насельніцтва чакае ад палітыкаў пазітыўных альтэрнатыў, гэта асабліва актуальна.

